ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Кніга Ноша

№ 35 снежань, 2015

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Васіль ЖУКОВІЧ: «Паэт звяртаецца да прозы, бо не ўсё можна выказаць сродкамі паэзіі»

**– Шаноўны Васіль Аляксеевіч, чытачы ведаюць Вас як аўтара шматлікіх паэтычных кніг. Аднак Вашая новая кніга – «Арабінавая ноч» – складаецца з празаічных твораў. Чаму пасля доўгага перапынку Вы зноў звярнуліся да прозы?**

– Паэзія насамрэч дамінавала ў маёй творчасці, вынікам чаго з'явіліся некалькі дзясяткаў зборнікаў вершаў як для дарослых, так і для дзяцей і перакладаў. Але гэта не азначае, што я надоўга выракся прозы. Цягам дзесяцігоддзяў працаваў і ў гэтым занадта часапаглынальным жанры, калі-нікалі друкаваўся як празаік у перыядычных выданнях, толькі не выдаваў кніжак. Дарэчы, і сёлета не збіраўся нічога рыхтаваць да друку, хоць і гатоўнасць выдаць «Арабінавую ноч» з'явілася пасля публікацыі двух апавяданняў у адным з леташніх нумароў «Дзеяслова» і трох апавяданняў у «Літаратурнай Беларусі». Я атрымаў нямала добрых водгукаў на іх. Тым часам завяршыў і кароткую аповесць. А жаданне выпусціць кнігу прыйшло спантанна, калі завітаў у канцы лета ў выдавецтва «Кнігазбор»...



фота www.racyja.com.

Паэт звяртаецца да прозы, бо не ўсё, што баліць, можна выказаць сродкамі паэзіі. Без яе, суровай, не абышоўся нават аўтар вершаванага рамана А.С. Пушкін. У нашай роднай літаратуры шэраг творцаў, напрыклад, Уладзімір Някляеў, Янка Сіпакоў, Леанід Дайнека, Вольга Іпатава паспяхова сумясцілі абодва жанры. А ўзорам цудоўнага «раздваення» стаўся Якуб Колас.

**– Вы ініцыятар таварыскіх турніраў па шахматах сярод пісьменнікаў, пастаянны іх удзельнік і шматразовы пераможца. А ці ёсць у беларускай літаратуры творы пра шахматы? Ці не было ў Вас жадання напісаць твор на гэтую тэму?**

– У СБП ёсць пісьменнік Вольф Рубінчык (ён жа і кандыдат у майстры спорту!), які ў ХХІ стагоддзі выдаў некалькі кніжак пра шахматы. У мінулым стагоддзі Андрэй Федарэнка надрукаваў цікавы твор «Цугцванг», а Іван Клімянкоў стварыў аповесць,

*(Працяг на стар. 7)* 

**Даведка «Кніганошы»:**

**Васіль Жуковіч – паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «У храме хараства і смутку» (2003), «Не завіце Радзіму малой» (2009), «Няўжо?..» (2011), «Золата лістападу» (2012), кніг прозы «Як адна вясна...» (1980), «Тараскаў самакат» (1988) і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Забалацце Камянецкага раёна на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Дзядзенка Зміцер. Гісторыі ў прыцемках. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 148 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 67).**

Творы Змітра Дзядзенкі, якія ўвайшлі ў кнігу «Гісторыі ў прыцемках», вызначаюцца цікавасцю да таямнічага і неспазнанага, а таксама вострасюжэтнасцю. Героі твораў спрабуюць разгадаць загадкі, паходжанне якіх губляецца ў прыцемках гісторыі. Гэта характэрна як для містычнага апавядання «Яйкі птушкі Рух», так і для дэтэктыўных аповесцяў «Голем з Малой Мар'ямпольскай» і «Вуаерыст».




**Аксак Валянціна. Дзікая сліва: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 104 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 18).**

Новая кніга Валянціны Аксак – гэта свет несвядомай прыроды, першароднага граху і безабароннай душы. Свет, у якім згубіліся словы і знайшоўся сэнс. «Дзікая сліва» – шостая кніга паэткі, у якой валадарыць шостае пачуццё.




**Нурдквіст Свэн. Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды. Тэкст і ілюстрацыі Свэн Нурдквіст; пераклад са шведскай Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 32 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 11).**

Пэтсан і Фіндус хуценька прыбралі ў хаце перад Калядамі. Засталося толькі прынесці ялінку і прыгатаваць святочную ежу. І тут здарылася тое, што не мусіла здарыцца. Пэтсан падвярнуў нагу. Як жа яны дойдуць да крамы, як набудуць ежы, як прынясуць з лесу ялінку? Напэўна, гэта будуць вельмі сумныя Каляды. Хіба толькі здарыцца нешта такое, пра што ні Пэтсан, ні Фіндус не могуць нават і марыць. Кнігі Свэна Нурдквіста ўжо сталі класікай дзіцячай літаратуры, а яго гісторыі пра старога Пэтсана і коціка Фіндуса перакладзеныя на больш як 30 моваў свету.




**Аўрамчык Мікола. Выбраныя творы. Прадм. Генрыха Далідовіча. – Мінск: Беларуская навука, 2015. – 524 с.: [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя I, Мастацкая літаратура).**

Кнігу выбраных твораў беларускага паэта і празаіка Міколы Аўрамчыка (н. 1920) склалі найбольш значныя вершы, паэма «Волхаўская споведзь», аўтабіяграфічны раман пра прымусовую працу ў 1942–1945 гадах у каменнавугальных шахтах Рура, а таксама ўспаміны пра сяброў-літаратараў.




**Верас Зоська. Выбраныя творы. Уклад., прадм., камент. Ганны Запартыка. – Мінск: Беларуская навука, 2015. – 572 с., [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя I, Мастацкая літаратура).**

Гэта – самае поўнае выданне твораў беларускай пісьменніцы і грамадска-культурнай дзеячкі Зоські Верас (1892–1991). Аднатомнік склалі яе вершы, апавяданні, артыкулы, успаміны, лісты, а таксама беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік. Зоська Верас была ў самым цэнтры беларускага нацыянальнага руху першай чвэрці мінулага стагоддзя і вельмі цікава пра гэта ўспамінае.




**Верас Зоська. Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты. Уклад., прадм., камент. Міхася Скоблы. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 652 с: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Ва ўспамінах Зоські Верас (Людвіка Сівіцкая; 1892–1991) раскрываецца шырокая панарама беларускага жыцця ў міжваеннай Вільні, даюцца партрэты выбітных людзей, якіх яна ведала асабіста (М. Багдановіч, А. Смоліч, Г. Леўчык, Л. Родзевіч і інш.). Яе лісты – фактычна працяг успамінаў, у іх таксама адлюстраваныя падзеі і постаці айчыннай гісторыі XX стагоддзя. Гэтым выданнем працягваецца публікацыя творчай спадчыны пісьменніцы, распачатая ў кнізе «Я помню ўсё: успаміны, лісты» («Гарадзенская бібліятэка», 2013).




**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. №3, 2015. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 216 с.**

Трэці нумар літаратурнага альманаха «Брама» знаёміць з паэзіяй, прозай, перакладамі, літаратуразнаўчымі артыкуламі мясцовых аўтараў. Раздзел «Спадчына» ўтрымлівае ўспаміны Сяргея Панізьніка да 95-годдзя з дня нараджэння магілёўца Аляксея Пысіна, нататкі Сяргея Украінкі пра раннюю лірыку Пысіна, біяграфічны артыкул Уладзіміра Ліўшыца пра пісьменніка міжваеннага часу Васіля Каваля, а таксама прысвечаны Сяргею Грахоўскаму артыкул Валерыя Васілеўскага «Рэха незабыўнай сустрэчы».




**Выбраныя творы. Вольга Сахарава, Сяргей Сахараў. Уклад., камент. М. Казлоўскага, С. Панізьніка; прадм. М. Казлоўскага. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 560 с.**

У том выбранага Вольгі і Сяргея Сахаравых, дзеячаў беларускай культуры ў міжваеннай Латвіі, увайшло лепшае з іх літаратурнай спадчыны. Паэзія, публіцыстыка, драматургія, народная творчасць, сабраная і напісаная ў 1920–1940-я гады, склалі аснову выдання.




**Мурзёнак Пётр. Адвечныя плыні: кніга прозы. Укл. Пётра П. Мурзёнак. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 240 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 27).**

У кнігу «Адвечныя плыні» (27-ю ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») увайшлі творы Пятра Сільвестравіча Мурзёнка, якія раней друкаваліся ў альманаху «Беларус», а таксама неапублікаваныя творы і нататкі аўтара пра жыццё ў Канадзе. Гэта кніга – своеасаблівы працяг творчасці аўтара, які пачаўся выхадам кнігі ўспамінаў «Над Дзісенкай ракой» у 2008 годзе. На вялікі жаль, няўмольны лёс перарваў многія творчыя задумкі, якія былі ў запасе ў гэтага цудоўнага чалавека, бацькі, настаўніка, грамадзяніна і пісьменніка.




**Высоцкі Уладзімір. Пра жыццё, пра волю, пра сябе... Прадм. і пер. Міхась Булавацкі. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 232 с.**

Зборнік змяшчае арыгіналы і пераклады на беларускую мову 45 твораў Уладзіміра Высоцкага, найярчэйшага савецкага (ці, лепш бы сказаць, антысавецкага) паэта, спевака, акцёра, у драматычным і трагічным лёсе (і адпаведна, у творчасці) якога яскрава і выразна адлюстраваная адна з найбольш складаных эпохаў гісторыі Расійскай імперыі, а таксама роздум перакладчыка пра жыццё і творчасць Высоцкага. Пераклады твораў Высоцкага і прысвечаных яму вершаў Б. Акуджавы і А. Гарадніцкага зрабіў Міхась Булавацкі.




**Не маўчы па-беларуску. Насценны каляндар на 2016 год. – Мінск: Кнігазбор, 2015.**

Каляндар «Не маўчы па-беларуску» – гэта 366 (бо год высакосны!) сакавітых беларускіх словазлучэнняў, праілюстраваных арыгінальнымі малюнкамі на 12 тэмаў, асобнай на кожны месяц: Каляды, посуд, дом, кветкі, мэбля, адпачынак, адзенне, ураджай, канцылярскія прылады, садовы і гаспадарчы інструмент, птушкі і жамяра, ежа і пітво.




**Гэта Беларусь, дзетка! Маша Чаракова, Марта Чарнова; пад рэдакцыяй Эндзі Браўна і Алёны Ліс. – Мінск: Харвест, 2015. – 96 с.: іл.**

Вясёлы і разам з тым удумлівы і выкрывальны погляд на беларусаў, іх традыцыі і ментальнасць. «Гэта Беларусь, дзетка!» вывучае самыя разнастайныя аспекты штодзённага беларускага жыцця, даючы часам шакуючым і, падавалася б, нелагічным з'явам вельмі разумныя і прасякнутыя гумарам тлумачэнні.

«Гэта Беларусь, дзетка!» услаўляе Беларусь ад усяго сэрца, але вачыма знешняга назіральніка, праліваючы новае святло на цудоўную культуру Краю блакітных азёраў. Кніга – абсалютная неабходнасць для тых, хто мае беларускія карані, а таксама тых, хто хацеў бы даведацца пра гэту бясконца цікавую краіну. І не важна, адсюль Вы ці замежнік, калі Вам падабаюцца гумар і дасціпнасць, гэта кніга – для Вас.




**Ясмінска Надзея. Сем ружаў: зборнік казак. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 104 с.: іл.**

Сем ружаў. Сем дзяўчынак. Сем чароўных гісторый, якія распавядаюць пра каханне і сяброўства, адвагу, незвычайныя прыгоды і сапраўдныя цуды. Маляўнічы зборнік завабіць юных чытачоў у свет класічнай казкі, дзе дабро перамагае, а мара ўвасабляецца ў рэальнасць.




**Зізюк Міхась. Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя: казка. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 140 с.: іл.**

У кнізе пісьменніка Міхася Зізюка маленькі чытач пазнаёміцца са звычайным хлопчыкам Янкам і яго сябрамі, даведаецца пра жыццё лясных жыхароў і пра тое, чаму малако белае, як трапіць на Кудыкіну гару ды шмат іншых цікавых рэчаў. Разам з Янкам і яго сябрамі вас чакаюць незвычайныя прыгоды.




**Мацін Сяргей. Мары Хмар: вершы. Склад. Кася Глухоўская. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 102 с. [2] арк. іл. – (Час воблы; вып. 6).**

Кнігу склалі вершы, якія пакінуў пасля сябе таленавіты дзевятнаццацігадовы паэт Сяргей Мацін, які трагічна загінуў у снежні 2013 года. У зборніку можна адшукаць і філасофскія мары, і мары пра каханне, мары падарожныя, мінскія і пецярбургскія, а таксама мары памяці, цыклічныя і нават «смешныя». Сярод такіх разнастайных летуценняў жыве вельмі шмат мудрых і непасрэдных думак чалавека, для якога гэты свет усё яшчэ новы, кранальны і ўражвальны. Назаўжды новы, уражвальны і кранальны.




**Ястраб Фёдар. Абяцанне сноў: санеты. У 5 т. Т. 1. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 160 с. [8] арк. каляр. іл.: іл.**

Фёдар Ястраб (Франц Адамавіч Ястраб (1953–2014) пакінуў пасля сябе багатую творчую спадчыну як вядомы дзеяч культуры, мастак еўрапейскага ўзроўню, мастацтвазнаўца і таленавіты паэт. Унікальнасць яго паэтычнага дару ў тым, што ён праявіўся ў перадапошні год яго жыцця. Цяжкая хвароба адкрыла яшчэ адну старонку яго таленту – вершаскладанне. Як ён сам гаварыў: «Мне пайшлі санеты, на працягу 2012–2013 года штодзённа па 2–4 вершы». Напісана амаль тысяча. Гэта пяцьтамоў санетаў, адзін з буйнейшых санетарыяў краіны. Вынік гэтага незвычайнага дару перад вамі. Дасканаласць і выразнасць думкі і вобраза, філасофская напоўненасць рыфмы адкрываюць для чытача рамантычнага, але ў той жа час і вельмі сур'ёзнага паэта. Першы том закладвае падмурак для астатніх не менш важкіх і дасканалых напрацовак творцы.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Мележ Іван. Людзі на балоце. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 592 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Імя Івана Мележа застанецца ў нацыянальнай і сусветнай літаратуры дзякуючы створанай ім эпічнай «Палескай хроніцы» – глыбокаму філасофска-мастацкаму асэнсаванню жыцця Беларусі ў пераломныя 1920–1930-я гады. Раман «Людзі на балоце», які распачынае хроніку, уводзіць чытача ў беларускі свет вёскі Курані, дзе здзяйсняецца драма жыцця і кахання галоўных герояў.




**Быкаў Васіль. Сотнікаў. У тумане. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 384 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Што такое чалавек перад знішчальнай сілай бесчалавечных абставінаў? На што ён здольны, калі магчымасці захаваць жыццё вычарпаныя да канца і прадухіліць смерць немагчыма? Васіль Быкаў зноў і зноў ставіў гэтыя пытанні ў сваіх творах, якія ўвайшлі ў кнігу.




**Аляхновіч Францішак. У капцюрох ГПУ. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 288 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Беларускі драматург і тэатразнаўца Францішак Аляхновіч першым у сусветнай літаратуры, за чвэрць стагоддзя да Аляксандра Салжаніцына, апісаў жахі бальшавіцкага ГУЛАГу. Яго твор «У капцюрох ГПУ», упершыню апублікаваны ў 1934 годзе, яшчэ ў даваенны час быў перакладзены на асноўныя еўрапейскія мовы.




**Чорны Кузьма. Пошукі будучыні. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 256 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Чалавек не быў бы чалавекам, а народ – народам, каб іх не хвалявалі думкі пра заўтрашні дзень, каб яны не імкнуліся развітацца з мінулым і здабыць для сябе і нашчадкаў больш годнае жыццё. У сваім рамане «Пошукі будучыні» класік беларускай літаратуры Кузьма Чорны адлюстроўвае лёс беларусаў у час вялікіх выпрабаванняў.

## ■ ІМПРЭЗЫ

# Дні беларускай літаратуры прайшлі ў Кіеве

**19–20 лістапада ў Кіеве адбыліся Дні беларускай літаратуры з удзелам украінскіх і беларускіх пісьменнікаў і перакладчыкаў. Былі прадстаўленыя ў перастварэнні на ўкраінскую мову Анталогія сучаснага беларускага апавядання «Як риба об лід» («Як рыбіна аб лёд») і кніга Барыса Пятровіча «Спочатку була темрява» («Спачатку была цемра»).**

У межах Дзён беларускай літаратуры аўтары выступілі ў Нацыянальным Саюзе пісьменнікаў Украіны, на Першым канале Украінскага радыё. У Інстытуце філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта прайшла сустрэча са студэнтамі аддзялення «Літаратурная вучоба», беларусістамі.


Сяргей ДУБАВЕЦ, Барыс ПЯТРОВІЧ, Уладзімір ДАНІЛЕНКА, Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК.

У кнігарні «Є» на прэзентацыі дзвюх кніг выступілі Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч, літаратары Леанід Дранько-Майсюк, Сяргей Дубавец, Валер Стралко, а таксама ўкраінскія перакладчыкі Наталля Куліш, Васіль Трубай, Багдан Жолдак, Сяргей Салаўёў, Вячаслаў Лявіцкі, Віктар Коўрэй.

Анталогія «Як рыбіна аб лёд», выдадзеная кіеўскім ВЦ «Просвіта», змяшчае творы трыццаці аўтараў, апублікаваныя за апошнія 20 гадоў. Сярод празаікаў, уключаных у кнігу – Алег Аблажэй, Міхась Андрасюк, Наталка Бабіна, Вольга Бабкова, Ігар Бабкоў, Галіна Багданава, Васіль Быкаў, Андрэй Федарэнка, Наталка Харытанюк і шмат хто яшчэ.

Апрача анталогіі беларускага сучаснага апавядання прэзентавалася перакладзеная на ўкраінскую мову кніга Барыса Пятровіча «Спачатку была цемра» (выдавецтва «Украінскі прыярытэт», перакладчык Наталля Куліш).

Наведалі беларуска-ўкраінскую імпрэзу сябры Беларускага размоўнага клуба, які дзейнічае ў Кіеве ўжо шэсць гадоў.

Мадэратарам вечарыны быў Старшыня Кіеўскага аддзялення НСПУ Уладзімір Даніленка. Некалькі беларускіх песень выканаў бард Зміцер Захарэвіч, а рэжысёр Валеры Мазынскі распавёў пра кіеўскія паказы яго ных фільмаў, у тым ліку кінастужкі, прысвечанай Саюзу беларускіх патрыётаў.

**Фота ўзятыя з суполкі Беларускага размоўнага клуба Укантакце**
**Прэсавая служба СБП**




**Гардзіенка Наталля. Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 224 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 28).**

Кніга «Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы» (28-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») прысвечана дзейнасці беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва ў эміграцыі часоў кіравання Язэпа Сажыча (1917–2007). Выданне з'яўляецца храналагічным і зместавым працягам папярэдніх: «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы» (Мінск, 2013) і «Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы» (Мінск, 2014). Тут публікуюцца пратаколы, дакументы з дзейнасці Рады БНР 1980-х – пачатку 1990-х гг., ліставанне, бібліяграфія, хроніка, біяграфічныя нарысы пра асобных дзеячаў. Гістарычны нарыс адлюстроўвае асноўныя кірункі і праблемы працы беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва на эміграцыі ў даволі складаны і супярэчлівы перыяд, калі эміграцыйныя ўрады суседніх народаў спынілі сваё існаванне.




**Барадулін, Рыгор. Дзённікі і запісы. Выпуск 2. 1970–1978. Укл., прадм., Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 416 с. [24] с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3).**

У другім выпуску «Дзённікаў і запісаў (1970–1978)» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна сабраны рабочыя штодзённікі, запісы шматлікіх паездак па гарадах і вёсках Беларусі, па рэспубліках Савецкага Саюза, а таксама зацемкі аб пабачаным у падарожжы ў Фінляндыю, Швецыю і Данію.

У кнігу ўвайшлі вершы, якія не друкаваліся ў зборніках паэта, сяброўскія эпіграмы, вершаваныя прысвячэнні і віншаванні.




**Баршчэўскі Л.П., Васючэнка П.В., Тычына М.А. Словы ў часе і прасторы: літаратура апошняга стагоддзя. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 394 с.**

Прапанаваны зборнік папулярных нарысаў – самы поўны на сёння інтэграваны выклад найважнейшых з'яваў літаратуры апошніх ста гадоў, у якім беларуская літаратура разглядаецца як неад'емная частка сусветнага літаратурнага працэсу. Аўтары кнігі – вядомыя ў Беларусі філолагі-літаратуразнаўцы і пісьменнікі, якія маюць вялікі досвед выкладання літаратуры ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах Беларусі і замежжа. У аснову выдання пакладзены грунтоўна перапрацаваны і дапоўнены тэкст другой часткі кнігі тых жа аўтараў, што выйшла ў 2006 г. пад назвай «Беларуская літаратура і свет. Папулярныя нарысы». Кніга ўяўляе сабою працяг раней выдадзенай кнігі «Словы ў часе: Літаратура ад рамантызму да сімвалізму і нашаніўскага адраджэння».

Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца мастацкім словам, пытаннямі беларускай і сусветнай літаратуры і культуры.




**Шаўчэнка Ганна. Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай традыцыі ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Паслясл. І. Багдановіч. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 184 с.**

У кнізе ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве праведзены цэласны, канцэптуальны аналіз паэтычнай спадчыны А. Гарэцкага ў кантэксце станаўлення рамантычнай эстэтыкі ў літаратуры Беларусі. Прасочаны ўплыў А. Гарэцкага на развіццё мастацкіх тэндэнцыяў айчыннай паэзіі XIX стагоддзя, у прыватнасці патрыятычнай лірыкі нацыянальна-вызваленчай тэматыкі. Паказана роля паэта ў развіцці беларускага байкапісання, узаемаўплыву ў творчасці А. Гарэцкага і Ф.Д. Князьніна, А. Нарушэвіча, А. Міцкевіча, А. Рыпінскага, У. Сыракомлі, што спрыяе ўвядзенню асобы А. Гарэцкага і яго творчай спадчыны ў кантэкст літаратуры Беларусі XIX стагоддзя.




**Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі: беларускі татарын Якуб Якубоўскі. Уклад.: І.П. Драўніцкі, Т.В. Якубоўская. – Мінск: Тэхналогія, 2015. – 139 с.: іл.**

Кніга прысвечана жыццёваму шляху і творчасці беларускага татарына Якуба Якубоўскага – географа, гісторыка, філолага, энцыклапедыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, актыўнага ўдзельніка адраджэнскага руху беларускіх татараў у 1990-х гадах. У кнізе змешчаны нарысы і ўспаміны родных, сяброў і паплечнікаў, працы навукоўцаў, а таксама допісы самога Я.А. Якубоўскага.




**Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Лондан, 27–29 сакавіка 2014 г.). Пад рэдакцыяй Алеся Смаленчука і Джыма Дынглі. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 180 с.**

Матэрыялы зборніка знаёмяць чытачоў з актуальнай праблематыкай гістарычных даследаванняў постаці Кастуся Каліноўскага і падзеяў Паўстання 1863–1864 гг. на тэрыторыі Беларусі, а таксама з аналізам ролі міфа Каліноўскага і вобразу Паўстання для беларускага нацыятворчага працэсу.




**Несцярчук Леанід. Міхал Клеафас Агінскі: Ліцвін, Патрыёт, Творца. – Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2015. – 356 с.: іл.**

Навукова-папулярнае выданне «Міхал Клеафас Агінскі: Ліцвін, Патрыёт, Творца» прысвечана жыццю і дзейнасці знакамітага кампазітара, дыпламата, патрыёта, змагара за Бацькаўшчыну, мемуарыста Міхала Клеафаса Агінскага, адраджэнню, вяртанню і папулярызацыі ягонай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны.




**Мінскі Алесь. Валянцін Тарас: Літаратар з беларускіх шасцідзясятнікаў. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Валянцін Тарас (1930–2009) – таленавіты беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык і грамадскі дзеяч. Ён аўтар 6 зборнікаў вершаў, 6 кніг прозы, шматлікіх перакладаў, шэрага сцэнароў, больш за 100 публіцыстычных артыкулаў. Яго творы ведаюць і любяць шырокія колы чытачоў у Беларусі.




**Астапенка Анатоль. Мікалай Крукоўскі: Бляск і трагедыя філасофа. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Мікалай Крукоўскі (1923–2013) – сучасны філосаф і культуролаг, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Універсітэта культуры. Аўтар навуковых манаграфіяў і больш чым за 150 артыкулаў. Даследваў праблемы філасофіі, культуралогіі, эстэтыкі. Творца арыгінальнай канцэпцыі беларускай нацыянальнай ідэі.




**Ходас В.І. Браслаўшчына ад старажытнасці да сучаснасці. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 296 с.: іл.**

Выданне дазваляе больш хутка і якасна выявіць, як гістарычныя падзеі паўплывалі на Браслаўшчыну, паказвае значнасць краю ў гісторыі Віцебшчыны і Беларусі ў цэлым. У кнізе сабраныя і абагульненыя звесткі па гісторыі рэгіёну, аб праведзеных археалагічных даследаваннях. Матэрыял выкладаецца ў храналагічным парадку, што дае магчымасць засвойваць яго самастойна ці паралельна з вывучэннем гісторыі Беларусі. Выданне будзе карысным для настаўнікаў пры арганізацыі факультатыўных заняткаў па краязнаўстве, а таксама для вучняў 6-11-х класаў.




**Плавінскі Мікалай. Бітва на Нямізе 3 сакавіка 1067 года. – Мінск: Медысонт, 2015. – 54 с.: іл. – (Серыя «Беларусь у войнах»).**

Кніга прысвечана адной з самых знакамітых падзей айчыннай гісторыі эпохі Сярэднявечча – бітве на Нямізе, якая адбылася 3 сакавіка 1067 г. На падставе аналізу пісьмовых і археалагічных крыніцаў аўтар імкнецца рэканструяваць асноўныя падзеі, якія папярэднічалі гэтай бітве, яе ход, вынікі і наступствы.




**Вячаслаў Насевіч. Беларусы: станаўленне этнасу і нацыянальная ідэя. – Смаленск: Інбелкульт, 2015. – 526 с.**

У кнізе пад адной вокладкай сабраныя асноўныя працы вядомага беларускага навукоўца, прысвечаныя разнастайным кірункам ягоных навуковых зацікаўленняў: праблема ўтварэння і тэрытарыяльнага фармавання Вялікага Княства Літоўскага, гістарычная геаграфія і картаграфія, генеалогія, гістарычная дэмаграфія і інш.




**Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Беларусі XII склікання: дакументы, факты, каментары. Укладанне А.В. Кур'яновіча. – Смаленск: Інбелкульт, 2015. – 800 с.**

У складзе зборніка друкуюцца шматлікія дакументы і матэрыялы, датычныя дзейнасці парламенцкай апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Беларусі XII склікання (1990–1995 гг.). Многія з іх публікуюцца ўпершыню, на аснове архіўных арыгіналаў. Тэксты дакументаў суправаджаюцца грунтоўнымі каментарамі ўкладальніка, а таксама багатым ілюстратыўным матэрыялам.




**Рубінчык Вольф. Нарысы шахматнай мінуўшчыны і будучыні. – Мінск: Шах-плюс, 2014. – 112 с.**

Аўтар спадзяецца, што яго шостая кніга зацікавіць аматараў гульні і шахматнай кампазіцыі, а таксама тых, хто жадае лепей пазнаёміцца з гісторыяй краіны, – зацікавіць не менш, чым папярэднія.




**Вартавы шахматнага лабірынта (да 100-годдзя Якава Яфімавіча Камянецкага). Уклад. В. Рубінчык. – Мінск: Шах-плюс, 2015. – 56 с.**

У кнізе, якая выходзіць да ўгодкаў вядомага шахматнага іграка і кампазітара Якава Камянецкага (1915–1991), змешчаны яго задачы і эцюды 1929–1990 гг., некалькі выбраных партыяў з каментарыямі і без, узоры журналісцкай творчасці Я. Камянецкага. Чытачам прапануюцца таксама падрабязная біяграфія юбіляра і ўспаміны яго сучаснікаў. У дадатку можна пазнаёміцца з вынікамі конкурсаў складання шахматных задачаў – гэтыя конкурсы былі праведзеныя ў 1991–1992 і 2014 гг. і прысвячаліся памяці Я. Камянецкага.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

# Як вынішчалася памяць...

**Віцьбіч Юрка. Наша спадчына прамаўляе. – Мінск: Харвест, 2015. – 272 с.: іл.**

Кніга Юркі Віцьбіча ўяўляе сабою цыкл нарысаў, прысвечаных помнікам архітэктуры і культуры Віцебшчыны, Гродзеншчыны, Міншчыны, Брэстчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Аўтар напісаў іх у 1969–1970 гады і агучыў у перадачах беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». Юрка Віцьбіч піша пра гісторыю помнікаў, легенды і паданні, звязаныя з імі, цытатуе навуковыя працы і артыкулы з перыядычнага друку, а таксама дзеліцца сваімі ўражаннямі і думкамі пасля наведвання гэтых мясцінаў, успамінамі, якія запісаў ад мясцовых жыхароў.

У нарысах Юрка Віцьбіч асуджае свядомую і мэтанакіраваную палітыку «беларускага адзела КПСС» па знішчэнні старажытных святыняў. Як піша ва ўводзінах аўтар: «Пад кіраўніцтвам Леніна быў знішчаны помнік Аляксандру Другому, які, у супрацьлежнасць менскаму помніку яму ж, быў высокамастацкім і сугучным архітэктурнаму ансамблю Крамля. …Не трэба дзіву давацца, чаму ў сталіцах і на перыферыі натхнёныя правадыром і ахопленыя рэвалюцыйным палам «таварышы малькокы» ўправіліся знішчыць безліч рэліквій старадаўніны». «…І надзвычай паказальна, што ў 1935 годзе ў Полацку помнік Леніну паставілі на месцы наўмысна дзеля гэтага разбуранага абеліска ў гонар герояў вайны 1812 года».

Першая частка – «Віцебшчына» пачынаецца з нарыса пра Рагвалодаў камень каля вёскі Дзятлава Аршанскага раёна. Камень ушаноўваўся як святыня, над ім пабудавалі Барысаглебскую царкву. На жаль, гэтая святыня страчаная. Аўтар нарыса ў верасні 1939 года падчас навуковай экспедыцыі па ахове помнікаў гісторыі і мастацтва на месцы каменя знайшоў толькі яго рэшткі, пра што і склаў адпаведны дакумент, у якім адзначыў: «…Рагвалодаў камень быў падарваны 10 чэрвеня 1936 года падрыўнікамі, што нарыхтоўвалі камень для пабудовы аўтамагістралі Масква – Менск… На плошчы ў 40 квадратовых метраў цяпер ляжыць 28 буйных і дробных аскепкаў, з якіх на 12 можна заўважыць сляды крыжа і надпісу… Так загінула найвыдатная святыня беларускага народа, пакінуўшы па сабе след і ў шмат якіх навуковых працах і ў незлічоных народных паданнях. І наўдачу ці разумеюць тамтэйшыя падрыўнікі, што ўся магістраль Масква – Менск каштуе менш за Рагвалодаў камень», – піша Юрка Віцьбіч. У наступным артыкуле аўтар піша пра Барысаў камень каля вёскі Высокі Гарадзец Талачынскага раёна. 14 ліпеня 1937 года яго таксама падарвалі будаўнікі аўтамагістралі Масква – Мінск.




У іншых нарысах з сумам адзначаецца, што ў Віцебску былі разбураныя Мікалаеўскі і Успенскі саборы, Уваскрасенска-Рынкавая, Святой Тройцы і Дабравешчанская цэрквы і іншыя тутэйшыя ўнікальныя помнікі, фота якіх цяпер можна ўбачыць толькі на старонках кніжак пра архітэктуру Беларусі. (Успенскі сабор, Уваскрасенска-Рынкавая і Дабравешчанская цэрквы цяпер адноўленыя). У Полацку былі знішчаныя Манастыр Св. Барыса і Глеба, Касцёл Святога Стэфана. Шмат касцёлаў і цэркваў было знішчана ў Мінску ў мірны час: Петрапаўлаўскі сабор, царква Багамаці Казанскай, касцёл Св. Тамаша Аквінскага.

Кніга дае магчымасць параўнаць стаўленне да помнікаў архітэктуры ў 1930–1970-я гады і цяпер. Выданне багата ілюстраванае старымі фотаздымкамі і малюнкамі помнікаў архітэктуры, а таксама іх сучасным выглядам (калі захаваліся да нашага часу).

**А.С.**

■ **АЎТОГРАФ**

# «Паэт звяртаецца да прозы, бо не ўсё можна выказаць сродкамі паэзіі»

*(Пачатак на стар. 1)*

якая гэтаксама датычыцца шахматнага мастацтва. У мяне дагэтуль былі толькі вершы пра шахматы, у тым ліку і прысвячэнні нашым літаратарам – азартным шахматыстам: Андрэю Федарэнку, Вадзіму Жылко, Вольфу Рубінчыку. А ў «Арабінавай ночы» герой аповесці Андрэй – кандыдат у майстры спорту па шахматах...

**– Вы пераклалі на беларускую мову зборнік апавяданняў П. Цвіркі «Салавейка», кнігу Наваі «Лірыка», паасобныя вершы Махтумкулі, А. Міцкевіча, А. Фета, С. Ясеніна, Т. Шаўчэнкі, Л. Украінкі, І. Франка і інш. Чым так кранулі Вашае сэрца іх творы, што захацелася падзяліцца імі з беларускімі чытачамі?**

– Творамі, якія перакладаў я на мову родную, захацелася падзяліцца з беларускім чытачом, бо яны насамрэч кранулі маё сэрца, як і павінны кранаць шэдэўры. Ды мяркую, што найлепш чытаць вялікіх паэтаў у арыгінале.

**– Вы сябра таварыства «Беларусь – Украіна». На Ваш погляд, што варта рабіць сёння дзеля пашырэння культурных сувязяў з нашымі суседзямі?**

– Дзеля пашырэння культурных стасункаў з замежнымі суседзямі ў варунках, якія склаліся ў нас, у Беларусі, здзейсніць штосьці плённае, лічу, немагчыма. У 2010 годзе я быў запрошаны ў два замежжы – ва ўкраінскую Валынь (разам з палякамі) і ў літоўскую Палангу (разам з грузінамі), бачыў, як шчыруюць гаспадары, асабліва валыняне, якія святкавалі чарговыя ўгодкі «Лясное песні» Лэсі Украінкі. Яшчэ да фінальнага фэсту на радзіме славутасці два дні ідзе суцэльны каскад вандровак па краі, экскурсіяў, паэтычных чытанняў, дыскусій. І ўсюды, у мястэчках і вёсках, у гарадскіх салонах, – пачастункі нацыянальнымі стравамі і – песні, песні, песні! Співаюць народныя песні ўсе: і артысты, і вясковыя цёткі, і начальства. Кіраўнікі так хораша дэкламуюць паэзію і спяваюць! Штосьці падобнае ў нас нават уявіць немагчыма. Тут нават сваіх паэтаў, не тое што замежных, запрашаць баяцца: а раптам штось «не тое» скажа!..

Ці трэба здзіўляцца, што там дзяржава падтрымлівае кожнага літаратара: фінансуе як арыгінальныя, так і перакладныя выданні.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Людміла Рублеўская. З'яўленне Інфанты. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 112 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 16).**

У калекцыі «дзеяслоўскай» бібліятэчкі – новая кніга. У зборнік Людмілы Рублеўскай увайшлі вершы, а таксама іранічныя мемуары «Бестыярый майго савецкага дзяцінства». Філасофія, інтэлектуальнасць, шлях ад пафасу да горкай усмешкі і незнішчальны нацыянальны рамантызм – тое, што знаходзіцца ў цэнтры ўвагі аўтаркі і яе чытачоў. У выданні сабраныя, як паведамляе анатацыя «гістарычныя вершы-міфы пра Беларусь старасвецкую і рыцарскую, умоўныя вершы-«дакументы» пра Беларусь інсургенцкую, расстраляную... І рэаліі Беларусі сённяшняй, фантасмагарычныя і трагедыйныя, калі часам ратуе толькі іронія».




**Андрэй Хадановіч. Нататкі таткі. / Ілюстрацыі, дызайн і мастацкае афармленне Наталія Кійко. – Менск: Медыял, 2015. – 80 с. Надрукавана ў Літве.**

«Нататкі таткі», безумоўна, – з'ява ў беларускай дзіцячай паэзіі. Цудоўна ілюстраваная (варта адзначыць выдатпую працу мастачкі Наталіі Кійко), з дасціпнымі й запамінальнымі вершамі, яна ўжо прыйшлася даспадобы маленькім беларусам і іх бацькам.

Андрэй Хадановіч так анансаваў сваю першую кнігу для дзяцей: «На ўсе поры году і на ўсе нагоды. Пра катанне на каньках і на ровары. Пра першага верасня і першы паход у школу. Пра суворы рэжым дзіцячага жыцця ды розныя складанасці выхавання...»




**Аляксей Шэін. Сем камянёў. – Мінск: Пазітыў-цэнтр, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»). – 416 с.**

Доўгачаканы раман-казка пра прыгоды ў чарадзейнай краіне Эферыі, напісаны грамадскім дзеячам, заснавальнікам моўных курсаў і татам трох сыноў Аляксеем Шэіным, пабачыў свет! У адным з інтэрв'ю аўтар прызнаецца, што яшчэ з дзяцінства марыў стаць пісьменнікам і падчас працы арыентаваўся на класіку фэнтэзійнага жанру – «Хронікі Нарніі» Клайва Льюіса і «Уладара пярсцёнкаў» Джона Толкіна.

«Увогуле, кніга пра тры рэчы – каханне, веру і свабоду. Галоўнага героя завуць Ясь, ён падлетак. Ясь трапляе ў чароўную краіну Эферыю, дзе змагаецца за жыццё сваёй невылечна хворай сяброўкі Міркі. Выпадкова Ясь даведваецца, што ў Эферыі калісьці была крыніца жывой вады. Сюжэт пабудаваны вакол пошукаў жывой вады – трэба знайсці сем камянёў, якія падкажуць, дзе схаваная крыніца. Акрамя таго, краіну Эферыю захапіў самазванец, які кіруе народам несправядліва. Галоўны герой паралельна змагаецца і за тое, каб вярнуць свабоду ў краіну Эферыю», – расказвае Аляксей Шэін.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 35
снежань, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 35 22.12.2015.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com